имеется, то временно выбирается личность, способная исполнять данные функции, которая занимает эту должность до тех пор, пока, соответственно, не появится житель городов Любека или Висбю. Таким образом, все рещающие должностные посты Новгородского двора Святого Петра находились под контролем Любека и Висбю. На полях имеется примечание, гласящее, что Рига с ее уходящими в XIII в. притязаниями не может претендовать на равноправную долю в управлении Новгородским двором Святого Петра[14]. Второй момент: из четвертой Скры практически полностью был вычеркнут обширный каталог заимствованных из любекского права положений.

Заслуживает внимания и тот факт, что четвертая Скра появилась во время усиления роли Ганзы. Именно в данный период времени Ганза начинает предпринимать попытки упрочения своего влияния и осуществления общеганзейского контроля над разными филиалами нижненемецких купцов за рубежом с консеквентностью, что жалобы на приговоры, исходящие из Новгородского двора Святого Петра, должны были рассматриваться не на заседаниях городского совета Любека, а на ежегодном съезде ганзейских городов (Hansetag), обычно проходившем в том же самом Любеке.

Итак, некоторые редакции Новгородской Скры, а именно вторая, третья и четвертая, отражали борьбу Любека за господствующее положение в конторе и являлись неопровержимым доказательством того, что в первой половине XIV в. любекское право являлось единой составной частью порядков Петергофа. При всем этом нужно отметить и то, что de facto Новгород никогда не апеллировал к Любеку[15].

Наличие немецкого средневекового права в Новгороде является уникальным явлением для российских средневековых городов. В данном случае распространение любекского права стало результатом огромного хозяйственного значения Новгорода как торгового посредника между северо-восточными землями Руси и Западной Европой. Именно статус Новгорода как самого восточного ганзейского центра обусловил выбор модели городского немецкого права – любекского права.

БИБЛИОГРАФИЧЕСКИЙ СПИСОК


[1] См.: Келлер О. Б. Об особенностях Любекского городского права и его отличиях от Магдебургского городского права // Проблемы государственно-политического развития в истории стран Европы : сб. науч. ст. / под ред. Ю. Е. Ивонина, Л. И. Ивониной. Смоленск, 2004. С. 42–47, 45–46.

[2] См.: Ebel W. Lübisches Recht im Ostseeraum. Köln, 1967. S. 15.

[3] См.: Michelsen A. L. J. Der ehemalige Oberhof zu Lübeck und seine Rechtssprüche. Altona, 1839. XXIX, 374 S.

[4] См.: Bunge F. G. von. Die Revaler Rathslinie: nebst Geschichte der Ratsverfassung und einem Anhange über Riga und Dorpat. Nachdr. [d. Ausg.] Reval 1874. Hannover ; Döhren, 1973. VI, 210 S.

[5] См.: Ebel W. Jurisprudencia Lubecensis : Bibliogr. des lübischen Rechts. Lübeck, 1980. 119 S.

[6] См.: Ebel W. Lübisches Recht. Lübeck, 1971. Bd. 1. S. 14.

[7] См.: Келлер О. Б. Средневековое немецкое право на землях Центральной и Восточной Европы в XIII–XVIII веках. Минск, 2012. С. 62.

[8] Там же. С. 66.

[9] См.: Quellen zur Hanse-Geschichte / mit. Beitr. von J. Bohmbach, J. Goetze ; hrsg. R. Sprandel. Darmstadt, 1982. XXIV, 554 S.

[10] См.: Die Novgoroder Schra in sieben Fassungen vom XIII. bis XVII. Jahrhundert / hrsg. W. Schülter. Dorpat, 1911. X, 216, 145 S. S. 50–66.

[11] См.: Henn V. Lübisches Recht in den Auslandsniederlassungen der Hanse // Grundlagen für ein neues Europa: das Magdeburger und Lübecker Recht im Spätmittelalter und Früher Neuzeit / hrsg.: H. Lück, M. Puhle, A. Ranft. Köln, 2009. S. 49–65.

[12] См.: Kattinger D. Die Gotländische Genossenschaft: der frühhansisch-gotländische Handel in Nord- und Westeuropa. Köln, 1999. X, 529 S.

[13] См.: Frensdorff F. Das statutarische Recht der deutschen Kaufleute in Nowgorod. Göttingen, 1886. 35 S.

[14] См.: Groth E. Das Verhältnis der livländischen Städte zum Novgoroder Hansekontor im 14. Jahrhundert. Hamburg, 1999. 78 S.

[15] См.: Goerlitz T. Das Institut zur Erforschung des Magdeburger Stadtrechts: Stand und Aufgaben der Forschung über das Magdeburger Stadtrecht insbesondere seine Verbreitung zwischen Ostsee und Schwarzem Meer // Jomsburg: Völker u. Staaten im Osten und Norden Europas. 1942. № 12. S. 1073–1075.


Поступила в редакцию 10.10.2014.

***Ольга Борисовна Келлер*** – преподаватель Тюбингенского университета (ФРГ), докторант кафедры нового и новейшего времени исторического факультета БГУ.

*УДК 378.12:930*

*А. А. ЯНОЎСКІ*

## ЛЁС ГІСТОРЫКА Ў КАНТЭКСЦЕ ГІСТОРЫІ КРАІНЫ І БДУ

На примере биографии одного из деканов исторического факультета БГУ – А. И. Сидоренко рассматриваются некоторые обстоятельства развития факультета в 1930–60-е гг., когда необходимо было не только находить новые возможности для перспективного развития исторического образования и науки, подготовки кадров высокопрофессиональных специалистов, но и учитывать сложные внутренние и внешнеполитические процессы тех лет. В особенности это было характерно для развития факультета в первые годы после смерти Сталина. Именно тогда деканом истфака и был его бывший студент-выпускник, аспирант и доцент, прошедший три фронта Великой Отечественной войны, А. И. Сидоренко.

***Ключевые слова:*** высшая школа; исторический факультет БГУ; декан; личность в истории; история Беларуси; учебный процесс; фронтовик.

A. I. Sidorenko's biography – one of the heads of BSU's History faculty, is an example of development of faculty in the 1930–60s when it was necessary not only to find new prospects in training of the Soviet historians, but also to consider difficult processes of those years.

The graduate student and the associate professor of History faculty who passed through tank battles on three fronts of the Great Patriotic War was a dean in difficult first two years after Stalin's death.

***Key words:*** Higher school; BSU's History faculty; dean; personality in the history; history of Belarus; educational process; front-line soldiers.

За 80-гадовы перыяд дзейнасці гістарычнага факультэта БДУ яго дэканамі былі самыя розныя па характары, жыццёвых лёсах, успрыняцці калектывам асобы. Усяго за гэты дастаткова кароткі час нялёгкі «дэканскі хлеб» спазналі 13 гісторыкаў, і ўсе яны сваёй навуковай спецыялізацыяй увасаблялі амаль што поўны спектр магчымых даследчыцкіх кірункаў: ад айчыннай і ўсеагульнай гісторыі да дакладнай праблематыкі старажытных і сярэдневяковых Русі і Беларусі, антычнасці, германістыкі, партыйнай гісторыі, археалогіі, крыніцазнаўства, гісторыі СССР і нават педагогікі і марксізму-ленінізму. Патрэбна адзначыць, што, нягледзячы на цяжар адміністрацыйных абавязкаў, дэканы з годнасцю рэалізоўвалі свой даследчыцкі патэнцыял. Рэалізоўвалі, зразумела, амаль заўсёды трымаючыся тых парадыгм, якія для гісторыкаў, а тым больш педагогаў вышэйшай школы акрэслівалі абсалютна жорсткія ці знешне лагодныя ўстаноўкі «зверху», ад улад. Яны павінны былі сваім прыкладам, а не толькі адміністрацыйнымі мерамі рухаць у адпаведных кірунках увесь калектыў факультэта – ад прафесара да студэнта-курсавіка.

Сярод іншых асаблівае месца належыць Аляксею Ісаевічу Сідарэнку, 100-годдзе з дня нараджэння якога якраз прыйшлося на юбілейны для гістфака 2014 г. Яго дэканства было непрацяглым – усяго роўна два гады. Але яны супалі з часам вострых палітычных зрухаў, якія адбываліся ў СССР пасля смерці Сталіна. Таму, магчыма, кіраўніцтва БДУ (а рэктарам на той час быў Канстанцін Ігнатавіч Лукашоў, адметны не толькі сваім аўтарытэтам у геаграфічнай навуцы, але і палітычным і міжнародным вопытам) палічыла за лепшае паставіць на чале «ідэалагічнага» факультэта чалавека не толькі вопытнага як адміністратара, але якога б паважалі і за чалавечыя якасці, і за бездакорнасць біяграфіі, і, пажадана, за нейкія асаблівыя заслугі перад айчынай. Гэты дэкан і павінен быў стрымаць эмоцыі моладзі, развеяць сумненні сталых, скіраваць на паўсядзённасць напружанай працы выкладчыкаў і студэнтаў. Змена ўлады ў краіне і размыванне ранейшых арыенціраў патрабавалі ад разгубленых ідэолагаў найхутчэйшай, нават апераджальнай за афіцыйную, інтэрпрэтацыі ўсяго: што тварылася ў палітычных вярхах, у эканоміцы краіны, у яе стасунках з буржуазнымі краінамі і краінамі сацыялістычнага лагера і інш. Усё гэта і многае іншае напружана ўспрымалася ў абывацельскіх колах савецкага грамадства. Хто, як не гісторыкі, а тым больш універсітэцкія, павінны былі данесці да кожнага «праўду сучаснасці», спасылаючыся і на дагматыку ўжо добра засвоеных марксісцка-ленінскіх пастулатаў, і на логіку развіцця чалавецтва ў мінулыя часы.

Тут былі і іншыя акалічнасці, якія неабходна было ўлічваць: у арсенале ідэолага-выхаваўчых дзеянняў у дысанансна-раздрайнай звязцы знаходзіліся героіка-патрыятычныя тэмы зусім нядаўна атрыманай перамогі над фашызмам і новы рэпрэсіўны віток, раскручванне якога, улічваючы выкрыццё «злачынных дзеянняў Л. П. Берыі» і «ўсенародныя патрабаванні суровай кары здраднікам», як бы толькі набірала моц. Натуральна, гэты віток у чарговы раз захопліваў і БДУ[1].

Можна шмат версій згадаць, чаму А. І. Сідарэнка раптоўна быў вернуты з высокай пасады рэспубліканскага прафсаюзнага лідара сістэмы адукацыі і навукі ў сваю alma mater. Усё ж здаецца, што выказанае вышэй мае рацыю. Сярод тагачасных выкладчыкаў гістфака было дастаткова актыўных і з «неабходнымі» біяграфіямі асоб. Многія прайшлі праз франты Вялікай Айчыннай вайны, некаторыя адзначыліся прадуктыўнай працай у савецкім тыле. З'явілася новая генерацыя кандыдатаў навук, дацэнтаў, якіх у поўнай меры можна лічыць выхаванцамі самога гістфака. Праўда, на той час сярод іх яшчэ не было абсалютна адметных сваімі навуковымі тытуламі і званнямі (абароны доктарскіх дысертацый і атрыманне прафесарскіх званняў прыйдуцца на больш позні пасляваенны час), што як бы магло паспрыяць прызначэнню на пасаду дэкана. Але ж гэта статуснасць і не была патрэбна. Патрэбен быў просты, непрыкметны дэкан, але які б змог кантраляваць сітуацыю і не дапусціць праяўленняў вальнадумства, заснаванага на глыбокім веданні законаў гістарычнага развіцця, што так характэрна для гуманітарыяў і інтэлектуалаў увогуле.

Такім дэканам і павінен быў стаць для гістфакаўцаў Аляксей Ісаевіч. Але не стаў, бо за кошт жыццёвага вопыту і прыроднага дару абраў іншы шлях да розуму і сэрца сваіх падначаленых. Гэта быў шлях знаходжання паразумення ў кожнай сітуацыі, якая штораз узнікала і для ўсяго калектыву, і для асобных яго прадстаўнікоў. Ён на сваёй пасадзе рабіў усё магчымае, каб факультэт не затаіўся, не прыстасоўваўся да палітычных акалічнасцей, а рухаўся наперад, развіваўся як паўнавартаснае вучэбна-навуковае падраздзяленне ўніверсітэта, што рыхтуе спецыялістаў, а не кан'юнктуршчыкаў. Але такое становішча патрабавала зашмат фізічных і маральных сіл. Вытрымаць напружанне чалавеку, які ў гады вайны быў моцна кантужаны, гарэў у танку, было цяжка. Таму і тэрмін дэканства быў непрацяглым: Аляксей Ісаевіч сам, па ўласнай заяве дабіўся зыходу на пасаду дацэнта, каб нарэшце заняцца паўнавартаснай навукай. Дарэчы, такі шлях раней абраў і яго папярэднік – гісторык-антычнік Ф. М. Нячай.

Пасля такіх агульных разважанняў-замалёвак звернемся да прадстаўлення некаторых падрабязнасцей жыцця і працы гісторыка, якога многія пакаленні студэнтаў амаль што трох пасляваенных дзесяцігоддзяў успрымалі з цеплынёй і глыбокай павагай і заўсёды здзіўляліся, як франтавік-герой мог быць такім сціплым, задушэўным у адносінах не толькі са сваімі калегамі, але з самым нядбайным студэнтам.

І лічылі яго знаўцам не толькі беларускай гісторыі, але і ўсёй гісторыі вялікай краіны – СССР, не ведаючы пры гэтым, што дацэнт кафедры гісторыі БССР раней быў студэнтам, аспірантам і дацэнтам па кафедры гісторыі СССР, а тым самым арганічна засвоіў інфармацыйны і метадычны арсенал гэтага кірунку гістарычных ведаў. Таксама на ўзроўні чутак і студэнцкай інтуіцыі ён успрымаўся як нейкі асобны, адметны герой пераможнай вайны. Але аб яго баявым шляху распавядалі іншыя выкладчыкі, а не сам Аляксей Ісаевіч. Ён сам, мабыць, не лічыў неабходным акцэнтаваць увагу на перыпетыях свайго лёсу, а на занятках і ў прыватных гутарках скіроўваў размову на гераізм усяго савецкага народа. Аднак усе былі ўпэўнены – іх выкладчык сапраўдны герой. Пацвярджэнне гэтаму зрэдку можна было ўбачыць, калі з нагоды асаблівых урачыстасцей ён з'яўляўся на факультэце пры «поўным парадзе» – увешаны сваімі баявымі ордэнамі і медалямі.

Біяграфія Аляксея Ісаевіча – як бы мікраадлюстраванне біяграфіі той часткі беларускага савецкага грамадства, што фарміравалася ў якасці новай інтэлектуальнай эліты рэспублікі. Гэта быў складаны шлях спасціжэння вяршынь ведаў і пераадолення процьмы жыццёвых перашкод тымі, хто нарадзіўся ў беларускай глыбінцы, але дзякуючы сваім прыродным якасцям мог ставіць і вырашаць самыя складаныя задачы. Сялянскаму сыну з сяла Осава з-пад Касцюковічаў на Магілёўшчыне, каб пераадолець шлях ад парога бацькоўскага дома да кабінета дэкана і прарэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, патрэбна было валодаць мэтанакіраванасцю, асабістымі якасцямі, якія пазітыўна ўспрымаюцца большасцю з тых, хто побач па жыцці. І яны былі паслядоўна рэалізаваны.

Спачатку жыццё спасцігалася Аляксеем Ісаевічам у працоўных турботах па сямейнай гаспадарцы – яго бацька пасля рэвалюцыйных падзей валодаў надзелам зямлі, жывёлай, за кошт якіх і сваёй паўсядзённай працы карміліся Сідарэнкі. Ужо ў 1929 г. сям'я папала ў віхуру калектывізацыі, і юнак стаў засвойваць перавагу сумеснай працы ў калектыўнай гаспадарцы імя Энгельса, але змог пратрымацца толькі тры гады[2]. У пачатку 1932 г. ён рызыкнуў і па вярбоўцы з'ехаў на Данбас, каб там стаць пралетарыем завода імя Кірава ў г. Макееўка. Але хутка зразумеў, што без адукацыі жыццёвы небасхіл вельмі звужаецца. І таму пасля цяжкай і рызыкоўнай працы знаходзіў у сябе сілы вечарамі вучыцца на рабфаку, які дзейнічаў пры заводзе. Аб тым, што толькі за кошт асабістай мэтанакіраванасці магчыма было пераадолець самыя цяжкія перашкоды (а менавіта так і дзейнічаў Аляксей), можна спаслацца на прыклад бацькі яго калегі па гістфаку – Л. Т. Міронычыкава. Той, яшчэ студэнт гістфака якраз у часы дэканства Аляксея Ісаевіча, распавядаў, што яго бацька-селянін падаўся на заводы Данбаса, але не змог атрымаць аніякай адукацыі. І толькі сын стаў гісторыкам[3].

Атрыманы рабфакаўскі дыплом дазволіў акрэсліць новыя перспектывы ў спасціжэнні ведаў. Дзеля гэтага была абрана радзіма – А. І. Сідарэнка вярнуўся ў Беларусь, каб паступіць на дзённае аддзяленне рабфака БДУ. І толькі пасля яго заканчэння ўжо ў 23-гадовым узросце вырашыў працягнуць вучобу на ўніверсітэцкім гістфаку, які толькі-толькі набіраў сваю вучэбна-навуковую моц пасля стварэння ў 1934 г. Ён апынуўся ў новым асяроддзі, якое патрабавала абсалютных інтэлектуальных намаганняў у засваенні неверагоднай, шматвектарнай, але такой цікавай мінуўшчыны. Яго сялянскі і пралетарскі вопыт быў запатрабаваны ў грамадскай дзейнасці на факультэце, у БДУ, на Міншчыне. А гэта дзейнасць у тыя гады павінна была быць нават у студэнтаў не толькі актыўнай, але і абачлівай, узвешанай, бо кожны крок і кожнае слова маглі балюча адгукнуцца ва ўласным лёсе. Гісторыку як нікому іншаму патрэбна было вельмі добра разбірацца ў хітраспляценнях унутраных і знешнепалітычных абставін, у патрабаваннях і палітыцы партыі і ўрада.

Пэўна, студэнт А. І. Сідарэнка някепска спраўляўся з усімі абавязкамі, якія накладваліся на яго і вучобай, і грамадскай дзейнасцю. Хаця, калі параўноўваць яго з аднакурснікам Л. С. Абэцэдарскім, то, відавочна, ён не быў такім актыўна заангажаваным. Так, штотыднёвая газета БДУ таго часу «За ленінскія кадры» неаднойчы на сваіх старонках згадвала імя апошняга ці то з нагоды яго поспехаў у даследаванні «Паўстання Міхненкі ў Мазыры», ці як выдатніка, а яшчэ і грамадскага актывіста[4]. Таксама не заставаліся без увагі і іншыя студэнты-гісторыкі, бо ўвогуле гістфак у першыя гады сваёй дзейнасці быў у пашане. Штораз на працягу 1937–1941 гг. аб калектыве і асобных выкладчыках і студэнтах амаль заўсёды пазітыўна інфармавала сваіх чытачоў газета БДУ. Так, друкаваліся аб яго вучэбна-навуковым, грамадска-палітычным і нават побытавым жыцці і артыкулы, і замалёўкі. Вось дэкан А. П. П'янкоў падае даведку аб колькасных і якасных паказчыках на ліпень 1939 г., вось фота другакурснікаў-выдатнікаў М. Арцюшкевіч (потым – дацэнт гістфака М. П. Баранава) і Л. Сокала, вось вынікі здачы экзамену дацэнту з МДУ імя М. В. Ламаносава А. У. Яфімаву па «гісторыі залежных і каланіяльных краін» студэнтамі 4-га курса ў зімнюю сесію 1941 г. (згадваюцца імёны многіх, але не Сідарэнкі)[5]. Прыходзіцца меркаваць, што студэнт А. Сідарэнка проста «грыз граніт навукі» і рыхтаваўся да прафесіі настаўніка гісторыі, а сваю дасведчанасць у ведах не ставіў напаказ, хаця і «ішоў на чырвоны дыплом». Праўда, і ён аднойчы «засвяціўся», калі яго палымяная прамова падчас універсітэцкага сходу па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Мінскага абласнога савета была працытавана ў шматтыражцы: «Мы, студэнты і навуковыя работнікі, падтрымліваем думку калектыву рабочых і служачых завода "Ударнік" аб вылучэнні кандыдатам у дэпутаты...»[6]

Але прыйшоў чэрвень 1941 г. За яго плячамі былі поўныя чатыры гады вучобы, а наперадзе – поўныя тры яго франтавыя гады: змаганне з ворагам у складзе 16-й Асобнай Чырвонасцяжнай Дноўскай танкавай брыгады. Былы студэнт-гісторык даслужыўся да звання капітана, быў прызначаны намеснікам

начальніка палітаддзела брыгады[7]. Гэты статус ні ў якім разе не даваў перавагі над іншымі аднапалчанамі. Наадварот, танкіст Сідарэнка ўдзельнічаў у крывавых супрацьстаяннях паміж жалезнымі армадамі на Ленінградскім, Волхаўскім, ІІІ Прыбалтыйскім франтах. У жніўні 1944 г., калі ўжо была вызвалена ад ворага родная Беларусь, Аляксей Ісаевіч у жорсткім баі за эстонскі горад Тарту быў цяжка паранены і атрымаў моцную кантузію, якая потым будзе даваць аб сабе знаць на працягу ўсяго яго жыцця і якая не дазволіць у поўнай меры раскрыць відавочны талент навукоўца і арганізатара навукова-педагагічнай дзейнасці. Пасля доўгага лячэння ў шпіталях Ленінграда і Кірава палітрук-капітан быў камісаваны.

Каб загаіць раны, адысці ад кантузіі, спатрэбіўся час. І толькі ў пачатку 1945 г. Аляксей Ісаевіч адчуў сілы ставіць перад сабой новыя задачы. У першую чаргу патрэбна было завяршыць вучобу на гістфаку БДУ, і апошні пяты курс ім быў асілены за паўгода. Ужо ў чэрвені пераможнага 1945-га франтавіку-ардэнаносцу і спецыялісту-гісторыку «чырвоны» дыплом з кваліфікацыяй «малодшы навуковы работнік, выкладчык ВНУ, ВТНУ і сярэдняй школы» ўручылі тагачасны рэктар БДУ П. П. Савіцкі і старшыня ДЭК акадэмік У. М. Перцаў. Пэўна, тады прыйшлося ўпершыню прышпіліць да сціплага пінжака баявыя ўзнагароды: ордэн Чырвонай Зоркі і ордэн Айчыннай вайны ІІ ступені і медалі «За адвагу», «За абарону Ленінграда», «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне». Дарэчы, абодва ордэны і «салдацкая зорка» – медаль «За адвагу» былі атрыманы ў лёсавызначальным для краіны і трагічным для самога Аляксея Ісаевіча 1944 г.[8]

Натуральным быў і наступны крок па шляху мірнага жыцця – вучоба ў аспірантуры на гістфаку па кафедры гісторыі СССР і БССР з распрацоўкай дысертацыйнай тэмы «Класавая барацьба ў беларускай вёсцы ў першы год узнаўленчага перыяду (1921 г.)». Можна думаць, што выбар кірунку доследаў быў зроблены з улікамі сялянскага паходжання саіскальніка. У тыя аспіранцкія гады склаўся шлюб з Марыяй Ануфрыяўнай, у 1947 г. нарадзіўся першынец Сяргей. Сямейны бюджэт неабходна было папаўняць, таму праца на палову стаўкі па кафедры асноў марксізму-ленінізму не толькі дазволіла сілкавацца аспіранцкай сям'і, але набыць вопыт выкладання і засваення ідэалагем ужо на ўзроўні адказнасці выкладчыка, а не звычайнага студэнта.

Абарона дысертацыі адбылася амаль што ў тэрмін: на Вучоным савеце БДУ ў сакавіку 1950 г. і афіцыйныя апаненты (былы дэкан гістфака, а на той час загадчык кафедры гісторыі народаў СССР і прарэктар па навуковай рабоце, доктар гістарычных навук А. П. П'янкоў і дацэнт К. І. Шабуня), і члены савета аднагалосна высока ацанілі праведзеныя саіскальнікам доследы. Абараняўся ўжо не аспірант, а старшы выкладчык гістфака БДУ кафедры «гісторыі Беларусі», як сведчыць адзін з дакументаў з асабовай справы А. І. Сідарэнкі[9]. Заўважым, што эвалюцыя кафедральных назваў і ў тыя часы была даволі непрадказальнай, а пісьменнасць універсітэцкіх справаводаў разам з паспешлівасцю запаўнення розных анкет і напісання аўтабіяграфій самімі выкладчыкамі яшчэ больш заблытвае цяперашняга даследчыка.

У кастрычніку 1948 г. Аляксей Ісаевіч быў залічаны на дадзеную кафедру загадам па ўніверсітэце за подпісам таго ж А. П. П'янкова, які выконваў абавязкі рэктара. Цікавай акалічнасцю ў лёсе і службовай кар'еры Аляксея Ісаевіча з'яўляюцца яго перамяшчэнні па службовай і навукова-педагагічнай лесвіцы ў БДУ, якія суправаджаліся рашэннямі розных універсітэцкіх кіраўнікоў, але ўсе яны сваёй дзейнасцю ўпісалі ў гісторыю БДУ не адну адметную старонку. Згадаем некалькі прозвішчаў: П. П. Савіцкі, А. П. П'янкоў, І. С. Чымбург, К. І. Лукашоў, Я. К. Азаранка, Н. Г. Паўлава, А. Я. Малышаў, І. М. Ігнаценка, Ф. П. Шмыгаў, Г. А. Павеццеў, А. Н. Сеўчанка, Н. Т. Раманоўскі, У. М. Сікорскі і інш.

Як толькі паспяхова прайшла абарона дысертацыі, Аляксей Ісаевіч быў амаль адразу прызначаны загадчыкам універсітэцкай аспірантуры, але літаральна праз два месяцы яго адазвалі на зусім адказную пасаду па-за сценамі БДУ[10]. Са снежня 1950 г. ён узначаліў у якасці старшыні Рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў вышэйшай школы і навуковых устаноў, увайшоў у склад адпаведнага ЦК прафсаюза СССР, аднак захаваў за сабой выкладанне некаторых курсаў па цяпер ужо кафедры гісторыі СССР (назва «роднай» яму кафедры ў чарговы раз была перайначана). Кафедра была зацікаўлена ў прафесійнай працы маладога дацэнта: у 1952 г. Аляксей Ісаевіч быў прызначаны на гэту пасаду, хаця хадайніцтва аб адпаведным званні было накіравана з БДУ ў Міністэрства вышэйшай адукацыі СССР яшчэ ў верасні 1951 г. У ім адзначалася, што «тов. Сидоренко А. И. на историческом факультете Белорусского государственного университета имени В. И. Ленина читает курс истории СССР советского периода... проводит семинарские занятия и уже успешно работает над докторской диссертацией на тему "Профсоюзы БССР в борьбе за выполнение предвоенных пятилеток"».

Тут нельга не прывесці цікавую акалічнасць: у «Личном листке по учету кадров», які Аляксей Ісаевіч сам запаўняў ужо ў 1961 г., пазначана назва кафедры не ў яе афіцыйнай, хаця і штораз мяняўшайся транскрыпцыі, а так, як ён успрымаў яе вучэбна-навуковую сутнасць: гісторыі БССР ці гісторыі СССР і БССР[11]. Фактычна ж ён да 1958 г. працаваў на кафедры гісторыі СССР, а са стварэннем у гэтым годзе асобнай кафедры – гісторыі БССР – стаў яе дацэнтам.

Зварот у БДУ на пастаянную працу быў абумоўлены рашэннем рэктара К. І. Лукашова (жнівень 1953 г.) назначыць франтавіка і прафсаюзнага лідара дэканам гістарычнага факультэта ў сувязі з тым, што Ф. М. Нячай ужо колькі часу выказваў намер змяніць турботную пасаду дэкана на месца загадчыка

кафедры гісторыі старажытнага свету. Рэктарскі загад набыў юрыдычную моц толькі 1 кастрычніка, калі дазвол прыйшоў з Міністэрства культуры СССР, у падпарадкаванне якога на кароткі час перайшла ўся сістэма вышэйшай школы Савецкага Саюза.

На першы погляд два гады дэканства А. І. Сідарэнкі як бы нічым не адметныя. Факультэт ужо набраў пэўны тэмп свайго пасляваеннага развіцця, узнавіў вучэбна-метадычныя і навуковыя параметры і нават перавысіў іх, бо стаў амаль што поўнасцю беларускім, калі мець на ўвазе выкладчыцкі калектыў. У большай ступені на кафедрах былі запоўнены ўсе стаўкі, на якіх працавалі выхаванцы самога БДУ, а не «пачасавікі» з розных расійскіх ВНУ ці зусім выпадковыя людзі. Адным з такіх выхаванцаў і быў Аляксей Ісаевіч. З другога боку, у краіне абвастрыліся палітычныя супярэчнасці, карані якіх пралягалі не толькі ў сувязі з барацьбой за ўладу пасля смерці Сталіна, але і ў перспектывах развіцця савецкай эканомікі, замацавання за СССР першаснага месца ў складанай сістэме новага раскладу сіл на міжнароднай арэне, павелічэння ідэалагічнага ўплыву на ўсе групы грамадства, якое па шматлікіх прычынах напаўнялася нонканфармізмам, вальнадумствам. Таму займацца рэфармаваннем чаго-небудзь, што так заўсёды характэрна для сістэмы адукацыі, па-разумнаму не мела рацыі. Неабходна было і ўніверсітэту, і яго факультэтам перачакаць, у тым ліку і дэкану.

Але ж неабходна было і трымаць у сваіх руках усе кірункі штодзённай працы калектыву факультэта: ладзіць прыстойныя ўмовы для правядзення вучэбнага працэсу, бо заняткі ўжо доўгі час гісторыкі былі вымушаны праводзіць толькі ў трох аўдыторыях. Не хапала кніг, падручнікаў. Навукова-даследчыцкая работа абавязвала выкладчыкаў факультэта даваць вынік нават з народнагаспадарчым эфектам – перш-наперш, зразумела, гісторыкі павінны былі забяспечыць школу ўсіх узроўняў падручнікамі, гэта значыць напісаць іх. Але толькі па айчыннай гісторыі быў дазвол на такую справу. Усе астатнія пісаліся ў цэнтры. З беларускай жа гісторыяй ніяк не маглі разабрацца ні акадэмічныя, ні ўніверсітэцкія даследчыкі. Спробы яе комплекснага напісання прадпрымаліся неаднойчы, але толькі якраз на гэты час з'явіўся рэальны шанс надрукаваць акадэмічны двухтомнік «Гісторыя БССР», да якога непасрэднае дачыненне мелі і ўніверсітэцкія гісторыкі, у тым ліку А. І. Сідарэнка. Ён як дэкан ужо ў першай справаздачы аптымістычна заявіў аб яго выхадзе з друку, а шматтыражка БДУ «За сталінскія кадры» абвясціла, што ўніверсітэцкая бібліятэка закупляе абодва тамы (між іншым разам з трохтомнікам «История Польши»)[12]. Але рэальнае і пажаданае разышліся: у 1954 г. выйшаў толькі першы том, а другі чакаў сваёй чаргі яшчэ некалькі гадоў, бо там патрэбна было вельмі вытанчана падаць найноўшую гісторыю Беларусі. Наконт абраных парадыгм літаральна па кожнаму эпізоду працягваліся спрэчкі, хаця рукапіс як бы быў падрыхтаваны да друку.

Між тым дэкан з гонарам пісаў (праўда, за подпісам «простага» кандыдата гістарычных навук, дацэнта), што ўжо ў 1955 г. выйдзе другі том. А, маўляў, у першым жа томе яго суаўтарамі сталі факультэцкія гісторыкі У. М. Перцаў, Л. С. Абэцэдарскі, М. Б. Фрыдман і М. П. Баранава. І гэты том атрымаў «станоўчую ацэнку грамадскасці і перыядычнага друку як рэспубліканскага, так і саюзнага, бо ён грунтуецца на марксісцка-ленінскай тэорыі», і аўтары «стварылі марксісцкую кнігу па гісторыі беларускага народа»[13].

Абставіны, што складваліся вакол выхаду другога тома, асабліва датычыліся дэкана, які па сваёй навуковай спецыялізацыі якраз даследаваў часы «савецкіх лёсавызначальных пераўтварэнняў» у Беларусі. І ён быў у складзе аўтарскага калектыву другога тома. Але ж гэты том выйдзе ўжо пасля завяршэння дэканскай кар'еры. Непрацяглы час Аляксей Ісаевіч будзе спасылацца на сваё суаўтарства ў ім, уносіць дадзеныя ў розныя афіцыйныя паперы, спісы навуковых прац. Але студэнты 1960–70-х гг. добра памятаюць, што гэты двухтомнік для іх быў пад забаронай у карыстанні. Спасылкі на яго падчас заняткаў, а тым больш на экзаменах маглі прывесці да немінуючага правалу, нават адлічэння з БДУ. Студэнцтву зразумець прычыну такіх патрабаванняў выкладчыкаў (асабліва Л. С. Абэцэдарскага) было цяжка, але кафедра гісторыі БССР жорстка адсочвала імкненні моладзі хаця б пагартаць гэты двухтомнік, які толькі нядаўна для факультэцкіх гісторыкаў быў прадметам гонару. І раптоўна стаў недатыкальным... У хітраспляценнях ідэалагічных падыходаў-змен ім разабрацца тады было немагчыма. Характэрная дэталь: А. І. Сідарэнка ў лістападзе 1972 г. падсумаваў вынік сваёй навуковай дзейнасці ў адпаведным трафарэтным спісе. Сярод больш за 30 навуковых прац, артыкулаў, рэцэнзій не знайшлося месца для пазначэння ўдзелу ў напісанні раздзелаў другога тома «Гісторыі БССР»[14]. Між тым раней ён не раз спасылаўся на свой удзел у напісанні гэтага тома, а вось у справаздачы аб сваёй рабоце за 1964–1968 гг. у раздзеле «Научно-исследовательская работа» неяк між іншым напісаў: «…участвовал в написании некоторых коллективных работ...», разам з тым пералік «прахадных» артыкулаў у часопісах пазначыў поўнасцю[15].

Распавядаць аб двух гадах дэканства Аляксея Ісаевіча можна дастаткова прадметна. Ёсць магчымасць назваць шмат прыкладаў, якія адлюстроўваюць той факт, што жыццё дэкана было ў самым цесным адзінстве са шматвектарнай дзейнасцю факультэта. А гэта дзейнасць праз гады ў нашым цяперашнім успрыняцці тым больш спалучаецца з асобай дэкана. Ды і дакументы амаль штораз пазначаюць яго імя і з нагоды тых ці іншых поспехаў калектыву гістфака, і ў сувязі з недапрацоўкамі, праваламі. А апошніх у тыя гады хапала, бо ацэнка руціны факультэцкага жыцця з боку розных інстанцый і асоб у пераходныя 1953–1955 гг. як бы сумяшчала пільнасць сталінскіх часоў, насцярожанасць з-за няведання

заўтрашняга дня і ліберальныя павевы, якія мацаваліся. Зазначым, што тут неабходна ўлічваць і такую акалічнасць, што і дэкан, і многія яго калегі па факультэце і ўніверсітэце ў цэлым былі моцнымі сваімі баявымі заслугамі, якія надавалі ім упэўненасць у праваце дзеянняў. Тым больш, што многія былі членамі партыі, уступіўшымі ў яе рады якраз у часы пераможнай вайны. А ўпэўненасць рабіла людзей дастаткова самастойнымі пры рашэнні розных пытанняў.

Але звернемся да фактаў. Кідаецца ў вочы тое, што гады дэканства Аляксея Ісаевіча неяк слаба прадстаўлены нават ва ўніверсітэцкай хроніцы, якую можна спазнаць, звярнуўшыся да шматтыражкі БДУ з характэрнай назвай «За сталінскія кадры». Гістфак згадваецца няшмат разоў (у адрозненне ад перадваенных часоў, калі тагачасная шматтыражка БДУ «За ленінскія кадры» ў кожным сваім нумары распавядала аб гістфаку). Усё больш аб сабе пішуць філолагі, асабліва прадстаўнікі журналісцкага аддзялення філфака. Напрыклад, цяпер добра вядомы А. І. Мальдзіс у той час быў амаль што самым актыўным у апісаннях спраў на факультэце. І ў большай ступені абсалютна ў пазітыўным рэчышчы. А калі зрэдку з'яўлялася інфармацыя пра гістфак, то яна была больш крытычнага характару, прадстаўляліся недапрацоўкі калектыву і ў вучэбным працэсе, і на глебе выхавання і правядзення палітінфармацый, і пры арганізацыі навукова-даследчай работы студэнтаў[16]. Імя самога дэкана некаторы час амаль не ўзгадвалася ў сувязі з недахопамі ў працы факультэта. Праўда, і ў сувязі з поспехамі: і калі адзначалася высокая паспяховасць на аддзяленні філасофіі, калі студэнты-гісторыкі станавіліся пераможцамі ў спорце, калі мацнеў кадравы патэнцыял факультэта і інш.[17]

Асабліва востра газета прадстаўляла становішча з арганізацыяй навукова-даследчай работы студэнтаў (НДРС) і насценнага друку. Цікава адзначыць, што гэта тэма была звышактуальнай і ў часы студэнцтва Аляксея Ісаевіча. Аб неабходнасці годнай пастаноўкі «студэнцкай навукі» ў 1937–1941 гг. рэгулярна на сваіх старонках распавядала ўніверсітэцкая газета. Напрыклад, калі яшчэ ў 1936 г. акадэмік М. М. Нікольскі даказваў, што «семінары – аснова навукова-даследчай работы студэнтаў», то ўжо ў 1955 г. у каторы раз акцэнтавалася ўвага на неабходнасці эфектыўнай работы студэнцкіх навуковых гурткоў і асабліва на ўважлівым кіраўніцтве імі з боку выкладчыкаў[18]. Сідарэнка-студэнт і Сідарэнка-дэкан, можна казаць, мелі непасрэднае дачыненне да рэалізацыі ўсіх канцэпцый і меркаванняў у дачыненні і да розных падыходаў у шматбаковай дзейнасці факультэта.

Аб універсальнасці гісторыка-кіраўніка сведчаць яго афіцыйныя характарыстыкі: ён меў і адпаведны ідэйна-патрыятычны ўзровень падрыхтоўкі і прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, і карыстаўся ў студэнтаў і выкладчыкаў заслужаным аўтарытэтам. Але можна меркаваць, што дэкан не асабліва даражыў сваёй высокай па мерках БДУ пасадай, бо разумеў асаблівасці чарговага «пераходнага перыяду» ў жыцці краіны, як і сэнс сваёй місіі. Тым больш, што ў 1955 г. раптоўна значна пабольшылася хваля крытычных ацэнак дзейнасці факультэта, асобных яго кафедр, выкладчыкаў і студэнтаў. А за ўсім гэтым стаяў ён – дэкан, які нёс адказнасць за ўсё: то ён «ні разу не прысутнічаў на камсамольскіх сходах», то «мала ўвагі ўдзяляў вучэбна-выхаваўчай рабоце», то некаторыя выкладчыкі «дрэнна адносіліся да сваіх абавязкаў», то зноў не так была арганізавана НДРС і не так як трэба працавала рэдкалегія насценнай факультэцкай газеты[19].

У выніку на стале рэктара апынулася заява ад дэкана вызваліць яго ад пасады, якая ў хуткім часе ўвасобілася ў адпаведны загад па БДУ «згодна з пададзенай заявай». Аляксей Ісаевіч, так адбылося, роўна два гады быў кіраўніком факультэта: ад 1 кастрычніка 1953 г. да 1 кастрычніка 1955 г. Яго змяніў адзін з аднакурснікаў – таксама слаўны франтавік П. З. Савачкін, аб якім аўтар гэтых радкоў разам са сваімі калегамі па гістфаку распавядаў у асобным артыкуле[20].

Потым А. І. Сідарэнка ўсе гады працаваў дацэнтам новастворанай кафедры гісторыі БССР, якую ўзначальваў зноў жа яго аднакурснік Л. С. Абэцэдарскі. І па-за заканчэнні кожнага пяцігадовага тэрміну без праблем перавыбіраўся на сваю пасаду. Быў кароткачасовы скачок па «кар'ернай лесвіцы» – вясной 1959 г. па загаду рэктара А. Н. Сеўчанкі А. І. Сідарэнку, ужо дацэнта, прызначылі выконваючым абавязкі прарэктара па навуковай рабоце на час адпачынку Г. А. Павеццева. Гэты факт яшчэ раз пацвердзіў несумненны аўтарытэт гісторыка, якім ён карыстаўся ва ўніверсітэце. Кола яго вучэбных абавязкаў было амаль што нязменным: на гістфаку, філфаку і журфаку Аляксей Ісаевіч чытаў агульныя і спецыяльныя курсы па гісторыі СССР і БССР савецкага часу, рэгулярна выступаў у працоўных калектывах Мінска і ўсёй рэспублікі з навукова-папулярнымі лекцыямі, выбіраўся старшынёй мясцкама БДУ, за 1950-я – пачатак 1970-х гг. надрукаваў самастойна ці ў суаўтарстве з калегамі па факультэце 36 розных артыкулаў, хрэстаматыю, брашуру, некалькі рэцэнзій. Нейкі час ён быў актыўным аўтарам статусных часопісаў таго часу: «Коммунист Белоруссии», «Советская Отчизна», «Беларусь», надрукаваў на іх старонках каля 20 ідэалагічна вывераных артыкулаў. Але сярод іншых сваіх прац А. І. Сідарэнка ганарыўся «Экономической историей БССР» (1965) і хрэстаматыяй па гісторыі БССР (1972). Са свайго боку адзначу, што ён стаў адным з аўтараў, па сутнасці, першай сістэматызаванай гісторыі нашай alma mater (1962), хаця гэта кніга выйшла толькі з пазначэннем 33 прозвішчаў тых, хто сабраў і апрацаваў ужо дастаткова вялікую колькасць дакументаў, якія і акрэслівалі 40-гадовы шлях развіцця БДУ[21]. Чамусьці Аляксей Ісаевіч сам не згадваў аб удзеле ў напісанні гэтай кнігі.

Завяршыць жа працу над напісаннем доктарскай дысертацыі Аляксей Ісаевіч так і не змог, бо многія гады пакутаваў ад наступстваў сваёй цяжкай ваеннай кантузіі. Урэшце рэшт не хапіла сіл змагацца на

ўсіх франтах асабістага жыцця. І гісторык палічыў за лепшае па набыцці 60-гадовага ўзросту напісаць заяву аб звальненні і стаць звычайным савецкім пенсіянерам, з'ехаўшы дажываць век на малую радзіму. Там Аляксей Ісаевіч трагічна загінуў 20 верасня 1980 г. ва ўзросце ўсяго 66 гадоў.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС

[1] Гл.: Зварот да ўсіх студэнтаў універсітэта // За сталінскія кадры. 1953. 15 мая ; Патрыятычны пачын // Там жа. 1953. 30 мая ; З вялікім энтузіязмам // Там жа. 1953. 29 чэрв. ; Далоў правакацыі і ворагаў міру! // Там жа. 1953. 7 ліп.
[2] Гл.: Архіў БДУ. Ф. 205. Воп. 10. Спр. 193. Арк. 2.
[3] Гл.: Міронч ыкаў Л. За радаснае і шчаслівае жыццё // За сталінскія кадры. 1955. 22 лют.
[4] Гл.: За ленінскія кадры. 1938. 26 чэрв. ; 1941. 17 студз., 10 крас., 1 мая.
[5] Там жа. 1938. 4 ліп., 21 студз. ; 1939. 14 сак. ; 1941. 25 студз.
[6] Там жа. 1939. 25 лістап.
[7] Гл.: Материалы Казачинского. Действующие лица в книгах [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://test.kazachinskiy.in.ua/?page_id=1257 (дата обращения: 29.10.2014).
[8] Гл.: Архіў БДУ. Ф. 205. Воп. 10. Спр. 193. Арк. 4.
[9] Там жа. Арк. 10.
[10] Там жа. Арк. 18.
[11] Там жа. Арк. 2.
[12] Гл.: За сталінскія кадры. 1954. 1 верас.
[13] Там жа. 1954. 31 снеж.
[14] Гл.: Архіў БДУ. Ф. 205. Воп. 10. Спр. 193. Арк. 13–16.
[15] Там жа. Арк. 39–40.
[16] Гл.: За сталінскія кадры. 1954. 7, 16 крас., 25 верас. ; 1955. 12 сак.
[17] Там жа. 1954. 22 студз., 29 сак., 5 кастр., 18 кастр. ; 1955. 27 мая.
[18] Гл.: За ленінскія кадры. 1936. 19 сак. ; За сталінскія кадры. 1955. 12 сак.
[19] Гл.: За сталінскія кадры. 1955. 12 сак., 16 крас., 11 мая.
[20] Гл.: Литвиновский И. А., Ходин С. Н., Яновский О. А. «Недаром на истфаке он глава...» // Российские и славянские исследования : науч. сб. Минск, 2011. Вып. 6. С. 235–248.
[21] Гл.: Белорусский государственный университет имени В. И. Ленина. Минск, 1962.

Паступіў у рэдакцыю 07.10.2014.

***Алег Антонавіч Яноўскі*** – кандыдат гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі Расіі.